*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак* БАГУШЭВІЧ




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.). ◆ № 4 (60) ◆ 29 студзеня 1992 г. ◆ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

## Поступ тыдня

***У ЧАС СВАЁЙ ПАЕЗДКІ У КІТАЙ І МАНГОЛІЮ В. КЕБІЧ ПАДПІСАЎ ПАГАДНЕННІ АБ ЭКАНАМІЧНЫМ І ГАНДЛЁВЫМ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І ДЗВЮМА ДАЛЁКІМІ КРАІНАМІ. ХАЦЕЛАСЯ Б, АДНАК, КАБ ЛЮДЗІ ВЕДАЛІ ПРА ГЭТА НЕ ТОЛЬКІ ПА ЖУРНАЛІСЦКАЙ ІНФАРМАЦЫІ, АЛЕ І ПА МАГАЗІННЫХ ПРЫЛАЎКАХ.***

***— Нас цікавіць... размяшчэнне і знішчэнне ядзернай зброі і звычайнага ўзбраення,— заявіў у Менску міністр замежных спраў Францыі Ралан Дзюма. Але ён не растлумачыў, чаму незалежная дзяржава павінна абмяркоўваць знішчэнне сваіх узбраенняў з той дзяржавай, якая ні сваёй ядзернай, ні звычайнай зброі не збіраецца знішчаць.***

**КАЛІ ПАСЛУХАЦЬ НАШЫХ ФІНАНСІСТАЎ, ДЫК МЫ ПАВІННЫ БЫЦЬ ЗАДАВОЛЕНЫ, ШТО ЦЭНЫ НА ПРАДУКТЫ ЎЗРАСЛІ НЕ Ў 10—12 РАЗОЎ, А ТОЛЬКІ Ў 3—5. ТЛУМАЧАЦЬ ЯНЫ ГЭТЫ СКАЧОК АДНЫМ — ВЯЛІКІМ ПАВЫШЭННЕМ АПТОВЫХ ЦЭН. НЕ ЎЛІЧВАЮЧЫ, ПРАЎДА, ПРЫ ГЭТЫМ АДНУ «ДРОБЯЗЬ»: ЦАНУ НА РАБОЧУЮ СІЛУ, ЯКАЯ ДАЎНО ПАВІННА БЫЛА «ПАДСКОЧЫЦЬ» ДА МІЖНАРОДНАГА ЎЗРОЎНЮ.**

***«АД ЗАБАСТОЎКІ ЎСТРЫМАЕМСЯ. ПАКУЛЬ». ТАК ВЫРАШЫЛІ ПРАФСАЮЗНЫ АКТЫЎ І САВЕТ ПА КААРДЫНАЦЫІ ЗАБАСТОВАЧНАГА РУХУ ВА ЎСТАНОВАХ І АРГАНІЗАЦЫЯХ АДУКАЦЫІ. А ВОСЬ МЕНСКІ СТАЧКАМ ПАЦВЕРДЗІЎ ГАТОЎНАСЦЬ ПЕДАГОГАЎ ДА ЗАБАСТОЎКІ Ў ПАЧАТКУ ЛЮТАГА. ЦІ НЕ САМАЯ ГЭТА СУР'ЁЗНАЯ НАВУКА, ЯКУЮ ПРАПАНАВАЛІ НАСТАЎНІКІ БАЦЬКАМ СВАІХ ВЫХАВАНЦАЎ?***

«Грашовай рэформы не будзе!» — часта заяўляюць апошнім часам фінансісты. А тое, што ў Шклове рыхтуюцца друкаваць грошы, тлумачаць як замену грашовых знакаў. Навучаны мінулагоднім вопытам абмену пяцідзесятак і соценных, калі аб такім абмене не папярэдзілі нават кіраўніцтва незалежных дзяржаў, радавы грамадзянін у стане зрабіць з гэтых заяў адказных асоб беспамылковы вывад...

Мас-культура і каланіяльная трасянка *Стар.* 3.

«Кроў стыла ў жылах ад думкі, як усё абясцэнілася ў нашым жыцці» *Стар.* 7.



Менск нядаўна наведаў папскі нунцый арцыбіскуп Франчэска Каланслона.

У часе ўрачыстай імшы ў Кафедральным саборы на плошчы Свабоды высокі пасланец Ватыкана абвясціў булу Яна Паўла II. Згодна ёй на Беларусі ствараецца Менска-Магілёўская каталіцкая метраполія.

На здымку: арцыбіскуп Франчэска Каланслона благаслаўляе ўдзельнікаў богаслужэння.

Фота Яўгена КАЗЮЛІ (БЕЛТА).

АДРАДЖЭННЕ: ПРЭМ'ЕРЫ, ВЕЧАРЫНЫ, ІМПРЭЗЫ

### Клуб «Спадчына» запрашае

6 лютага а 19-й гадзіне ў памяшканні дзіцячай бібліятэкі № 2 (вул. К. Чорнага, 10) адбудзецца сустрэча з міністрам замежных спраў Рэспублікі Беларусь П. К. Краўчанкам.

20 лютага а 19-й гадзіне ў памяшканні гэтай жа бібліятэкі адбудзецца сустрэча з сакратаром часопіса «Полацак» (Кліўленд, ЗША) Міхасём Белямуком.

Запрашаюцца ўсе жадаючыя.

## *Не згасне зорка Рыгора ШЫРМЫ*



*Добрым словам успамінае беларускі народ Рыгора Шырму. Найперш за тое, што ён надзвычай высока ўзняў аўтарытэт беларускай народнай песні.*

*Нядаўна калектыў менскай школы № 150, у якой працуе школа мастацтваў і створана некалькі музычных гурткоў, падрыхтаваў канцэрт-справаздачу да 100-годдзя Рыгора Шырмы.*

*НА ЗДЫМКУ: юныя артысты выконваюць польку.* **Фота М. ХАМЦА.**

# ВЫБРАНЕЦКАЯ ІНФАРМАЦЫЙНАЯ СЛУЖБА ПАВЕДАМЛЯЕ

* * *

*Выданне Саюза палякаў Летувы «Наша газета» паведаміла пра самароспуск Польскай партыі правой чалавека, галоўнай задачай якой было «ўтварэнне суверэннай Усходнепольскай рэспублікі, якая аб'яднала б усе тэрыторыі, якія былі акупаваны СССР у 1939 годзе».*

* * *

Летувіскае радыё дало наступныя звесткі: Закон Божы вывучае ў школах 47% вучняў-літоўцаў, 8,2% вучняў-рускіх, 91,9% вучняў-палякаў.

* * *

У горадзе Осла (Нарвегія) адбылася канферэнцыя міністраў асветы Паўночных і Прыбалтыйскіх краін. Пасля абмеркавання спосабаў інтэграцыі Прыбалтыйскіх краін у еўрапейскую сістэму асветы была складзена праграма, якая ўключае наступныя пытанні: падрыхтоўку і павышэнне кваліфікацыі настаўнікаў, вывучэнне замежных моў, змены ў змесце выхавання, спецыяльнае навучанне і інш.

* * *

23 снежня ў Беларускім тэатры імя Янкі Купалы адбыўся вечар, прысвечаны 74-м угодкам Усебеларускага кангрэса. Прадстаўнічы форум тады дэмакратычна абраных дэпутатаў выказаўся за незалежнасць Беларусі. Праўда, ён так і не завяршыўся — быў разагнаны бальшавікамі. Аднак працягвалі дзейнічаць абраныя на ім органы беларускай улады, якія 25 сакавіка 1918 года абвясцілі незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі.

Вечарыну адкрыў мужчынскі харавы калектыў «Унія». Ён выканаў беларускі рэлігійны гімн «Магутны Божа». З прамовамі выступілі гісторык У. Скалабан (расказаў, як праходзіў у снежні 1917 год Усебеларускі кангрэс), Зянон Пазьняк, В. Голубеў. Потым быў паказаны спектакль «Тутэйшыя» паводле п'есы Янкі Купалы.

Падрыхтаваў Андрусь ВАШКЕВІЧ.

## Дапушчана недакладнасць

У раздзеле «Выбранецкая інфармацыйная служба паведамляе» Ваша газета № 43(53) змясціла паведамленне пра тое, што 15 снежня ў прадстаўніцтве СМ РБ у Маскве адбудзецца ўрачыстасць, прысвечаная М. Багдановічу. Але Вы дапусцілі недакладнасць. Калі чытаеш паведамленне, складаецца ўражанне, што гэтую ўрачыстасць праводзіць прадстаўніцтва. Гэта не так. Вечарыну, прысвечаную 100-ым угодкам з дня нараджэння М. Багдановіча, праводзіла маскоўскае Таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны ў памяшканні прадстаўніцтва СМ РБ у Маскве.

І. ПАЎЛОЎСКІ.
г. Масква.

*Пытанне — адказ*

### *У КАГО БОЛЬШ ПАДПІСЧЫКАЎ?*

***Вядомая сваімі амаль непрыхаванымі пракампартыйна-імперскімі настроямі газета «7 дней» радасна паведаміла, якія з рускамоўных газет на Беларусі займелі значны тыраж на 1992 год. Але я нідзе не бачыў, каб хто надрукаваў спіс газет менавіта беларускіх, якія набралі найбольшую колькасць падпісчыкаў.***

***А яшчэ я разгадаў красворд у першым нумары «Нашага слова». На жаль, газета прыйшла да нас толькі 7 студзеня, і таму я спазніўся прыслаць свой адказ у рэдакцыю.***

Аляксей БРУЙ.
Гарадзея Нясвіжскага раёна.

Як нам паведамілі з Упраўлення паштовай сувязі і распаўсюджвання Міністэрства сувязі РБ (Людміла Раманаўна Верамеенка), самы вялікі тыраж па падпісцы беларускіх рэспубліканскіх перыядычных выданняў мае ў гэтым годзе газета «Звязда» — 63 456 экз., самы малы — газета «Голас Радзімы» — 1 258 экз.

Што да адказаў на крыжаванкі (красворды), то прысылаць іх просім на працягу 7—10 дзён з моманту выхаду нумара «Нашага слова» ў свет, тады мы зможам своечасова надрукаваць прозвішчы тых чытачоў, якія правільна разгадалі крыжаванку.

*З рэдакцыйнай пошты*

## ЗНОЎ ЗМОЎЧЫМ, БРАТЫ-БЕЛАРУСЫ?

Інакш не назавеш, як ганьбай і зняважай усяго нашага чыстага, беларускага, адносіны вайсковай адміністрацыі да сыноў нашага народа маёраў яшчэ пакуль Савецкай Арміі Міхася Варанца і Курбана Гельдыева, падпалкоўніка Алега Ігнаценкі. У самастойнай незалежнай краіне, якой цяпер з'яўляецца Беларусь, існуюць такія сілы, якія беспакарана душаць усё нацыянальнае! Ды яшчэ ў арміі! То каму служаць тыя камандзіры, якія сабе гэта дазваляюць, для якіх нацыянальнае, беларускае з'яўляецца варожым? Па меншай меры яны глыбока памыляюцца. Забрацца ў дом і пляваць у душу гаспадарам, даводзячы, што яго «ахоўваюць»,— хто сцерпіць такое? Варта назваць адкрыта імёны тых, хто хоча запалохаць беларуса зброяй, і падумаць, ці маюць права яны ў нас камандаваць. Калі сягоння яны праявілі варожасць да асобных нашых суродзічаў, то заўтра, калі іх рашуча не спыніць, пажадаюць падпарадкаваныя ім вайсковыя часці павярнуць супраць усяго беларускага народа.

У вырашэнні названага канфлікту не павінен застацца інертным Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Яго рэакцыя на адкрыты ліст каардынацыйнай Рады БЗВ сёння значыць вельмі многа. І яму са сваім адказам не варта марудзіць, бо марудлівасць толькі на карысць вайсковым начальнікам, якія зарваліся. Ім далі нават першы канал тэлевізіі, каб яны з Масквы застрашвалі народы незалежных краін і лаялі іх высокіх кіраўнікоў. Усёдаравальнасць можа дорага каштаваць беларусам.

Мікола ГРЫШАН.
в. Раготна Дзятлаўскага раёна.

23 снежня сустаршыня Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці Міхал Арэшкаў атрымаў пасведчанне аб рэгістрацыі статута партыі. Цяпер на Беларусі афіцыйна зарэгістравана пяць партый. БХДЗ змагаецца за маральнае, духоўнае, нацыянальнае, палітычнае і эканамічнае адраджэнне Беларускай дзяржавы.

ВІС.

## Свята на Брэстчыне

З 20 па 22 снежня мінулага года ў Палацы піянераў Брэста прайшло свята аўтарскай песні і беларускай паэзіі, на якое сабраліся маладыя таленты вобласці.

У першы дзень свята адбылася сустрэча маладых паэтаў з журналістам газеты «Піянер Беларусі», бардам Алесем Паплаўскім. Затым перад прысутнымі выступіў ансамбль народнага танца «Праменьчыкі». На другі дзень адбыўся гала-канцэрт пераможцаў конкурсу аўтарскай песні. Тэатральная студыя, якая існуе пры Палацы піянераў, паказала п'есу «Чарнобыль», якую напісалі і выканалі самі дзеці, што займаюцца ў гэтай студыі.

У апошні дзень было праведзена свята «Васількі Беларусі», у якім удзельнічалі паэтычныя таленты Брэстчыны. Рэспубліканскі юнацкі сімфанічны аркестр падараваў слухачам хвіліны прыемнай сустрэчы з музыкай.

Алена ЦВІРКО,
удзельніца паэтычнага свята,
вучаніца 9 класа СШ № 6 г. Баранавічы.

## Вуліца Януша Радзівіла?

На мой погляд, адным з першых нашых «нацыяналістаў» быў Януш Радзівіл, які ўжо ў першай палове XVII стагоддзя зразумеў, што ўсялякія саюзы ды уніі не на карысць нашай дзяржаве — ні з заходнімі, ні з усходнімі суседзямі.

Мяркую, што ягонае імя варта ўшанаваць. Чаму б імем Януша Радзівіла не назваць вуліцы і пляцы некаторых гарадоў Беларусі?

Лаўрэнцій ЖАЛЕЗНЯКОЎ.
г. Гомель.

*Пра тых, каму мы ўдзячныя*

# Некалі нам будзе

Невялічкі артыкул у газеце «Літаратура і мастацтва», перадача па радыё, вечарына ў камінной зале Дома літаратара — так, больш чым сціпла, мы адзначылі 70-годдзе з дня нараджэння Сцяпана Хусейнавіча Александровіча, таленавітага вучонага і літаратуразнаўцы, пісьменніка і педагога, вялікага патрыёта Бацькаўшчыны.

У той час, калі радыё «Свабода» праводзіла цыклы перадач (у маі і снежні) пра дзейнасць вучонага і пісьменніка, нашы часопісы і газеты адмоўчваліся. Як адмоўчваліся і выдавецтвы, не палічыўшы патрэбным перавыдаць кнігі С. Александровіча, такія неабходныя ўсім, каго вабяць нялёгкія пуцявіны роднага слова, хто носіць у сэрцы, як боль, занядбаную айчынную гісторыю, культуру, мову.

Відаць, шлейф чорнай няўдзячнасці, які цягнуўся за сумленным радавым беспартыйным доктарам і прафесарам С. Александровічам пры жыцці, яшчэ мае сілу. Не хачу нават называць заслужаным работнікам культуры, бо ў дачыненні да тытанічнай навуковай працы С. Александровіча ўспрымаю гэтае званне як зняваґу.

Я думаю, нам некалі будзе вельмі сорамна за гэты, абыдзены нашай увагаю і пашанай, юбілей. За глухое зацятае маўчанне і абыякавасць, за нявыдадзеныя кнігі, не сказаныя словы, не зробленыя справы па ўшанаванню памяці аднаго з нястомных дзеячаў беларускага Адраджэння. Мы пашкадуем, што па сваёй неразумнасці і недальнабачнасці не выкарысталі яшчэ адзін шанц ачысціць свае крыніцы, узвысіцца духоўна.

Бо гэта быў якраз той рэдкі юбілей, які мог паспрыяць нам у нялёгкай адраджэнскай справе — праз асэнсаванне зробленага С. Александровічам для беларускай навукі, культуры, літаратуры, гісторыі, беларускага Адраджэння. І, па вялікаму рахунку, — для ўзвышэння Нацыі.

Многія «навуковыя» працы тытулаваных вучоных не вытрымалі сёння праверкі часам, дыскрэдытавалі сябе ў святле Праўды, бо ґрунтаваліся на замшэлых партыйна-бальшавіцкіх догмах, ілжывай філасофіі зла, метадалогіі невуцтва-вар'яцтва. Гісторыя адрынула вучоных-прыкарытнікаў, якія прыйшлі ў навуку дзеля ўласных выгад, званняў і пасад. Будзем спадзявацца, што і дзяржава, якая была «дойнай каровай» для невукаў, нарэшце перастане іх шчодра фінансаваць за тое, што яны фактычна падарвалі навуку, адкінулі яе на задворкі цывілізацыі.

Для напісанага ж С. Александровічам, я веру, настане зорны час. Бо ўсё яго жыццё і дзейнасць — сумленнае служэнне Бацькаўшчыне, беларускай ідэі, зямлі, на якой ён нарадзіўся. Магутная плынь яго Думкі і Слова набірае сёння яшчэ большую сілу і моц, бо яна ідзе ад Зямлі, Каранёў, Лёсу народа — ад Таленту, Розуму, Сумлення. Ад Бога.

У духоўныя настаўнікі выбраў навуковец і пісьменнік С. Александровіч не Маркса-Энгельса-Леніна, а гуманіста, асветніка і вучонага Ф. Скарыну, мужнага змагара за народнае шчасце К. Каліноўскага, самаахвярнага і шчырага патрыёта роднай Беларусі Ф. Багушэвіча, песняроў народных дум і спадзяванняў Я. Коласа і Я. Купалу, пісьменніка трагічнага лёсу і чыстага сумлення Ц. Гартнага...

Ён пайшоў іхнімі шляхамі-пуцявінамі, каб вярнуць народу яго духоўную спадчыну, абудзіць нацыянальную свядомасць, пачуццё ўласнай годнасці, выклікаць павагу да «свяшчэннай кнігі» народа — яго гісторыі.

«На беларускай зямлі, — пісаў С. Александровіч, — пад гоман бароў і дуброў, пад спеў жаўранкаў у полі, пад звон рэчак і ручаін заўсёды нараджалася песня, поўная надзеі і веры ў людское шчасце і свабоду». Голасам гэтай песні ён вывяраў кожную сваю ідэю, задуму, справу. Яна была пуцяводнай зоркай, калі нястомны руплівец шукаў і асэнсоўваў невядомыя матэрыялы пра жыццё і дзейнасць беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара Ф. Скарыны; рэвалюцыйнага дзеяча XIX стагоддзя і пачынальніка новай беларускай літаратуры Францішка Савіча (кніга «Слова — багацце»); таленавітага беларуска-польскага пісьменніка, публіцыста, філосафа і грамадскага дзеяча Аляксандра Незабытоўскага («Вальнадумца з-пад Нясвіжа Аляксандр Незабытоўскі»); паэта народнага смутку і жальбы Паўлюка Багрыма («Па слядах паэтычнай легенды»)...

# НЕ ЗАБЫВАЙЦЕ ПРА МАС-КУЛЬТУРУ

## *Рок-музыка і Адраджэнне*

Доўгія гады ў нашым грамадстве татальна панавала догма, што масавая культура разбурае культуру сапраўдную. Між тым усё больш відавочнай становіцца для шырокай грамадскасці думка, што народу, які не мае сваёй нацыянальнай масавай культуры, пагражае лёс не мець ніякай. Бо ўся масавая культура мае патэнцыял масавага ўплыву, і паколькі шлях да сапраўднай культуры пачынаецца ад простага (масавага) да складанага (элітарнага), нікуды не прыйдзе народ, які пачынае гэты шлях ад чужога. А паглядзіце ж і сёння, чым поўніцца «беларускі» тэлерадыёцэнтр, канцэртныя пляцоўкі... Каця Сямёнава, «Ласковый май», «Монгол шуудан»...

Нездарма, відаць, гродзенскі бард Віктар Шалкевіч спявае: «Не хадзі на канцэрт рускай групы «Монгол шуудан». Бо ці ж не дзіўна: разам з папулярным тэлевізійным «беларускім» «Крокам» мы плачам, што ў Маскве застрэлілі Ігара Талькова, і зусім не ведаем, што ў Наваполацку памёр ад лейкоза праз год пасля канцэртаў на Гомельшчыне цудоўны музыкант Алесь Жалдакоў.

Усё, здаецца, ясна: мы занядбалі сваю масавую культуру, карыстаемся чужой, і ўсё жыццё нашае стала чужым.

Але... Гэта, так бы мовячы, абагульнены аспект, погляд нібыта з вышыні птушынага палёту. Дык мо час больш пільна прыглядзецца да тых новых з'яў, якія яшчэ нябачныя няўзброенаму воку.

Зрэшты, чаму нябачныя? Калі дыскі беларускага року ўжо прадаюцца ў крамах Масквы («Уліс-1»), Парыжа («Мроя»), Мюнхена («Уліс-2»), калі яны выдаюцца фірмамі грамзапісу былога Саюза, Польшчы, ЗША, мы не можам лічыць іх нябачнымі. Хіба што гаворка ідзе аб шырыні распаўсюджвання. Вось у гэтай шырыні і праблема. Абмежаванасць стрымлівае сам працэс нармалізацыі становішча.

Самі назвы беларускіх гуртоў вяртаюць масавай маладзёжнай аўдыторыі паўзабытыя словы роднай мовы — «Дзіда», «Рэй», «Бонда», вяртаюць гістарычныя падзеі і постаці — «Грунвальд», «Юрась Братчык». Калісьці мяне ўзрушвала, як тусоўка зусім далёкіх ад нацыянальнай свядомасці рок-фанаў дружна выгуквала на канцэрце назву любімай групы: «Дзі-да»! «Дзі-да»!» Для многіх, відаць, гэта было першае вымаўленае па-беларуску слова, калі не лічыць заданняў надакучлівага школьнага прадмета «белорусский язык». Цяпер ледзь не модным становіцца хоць трохі пагутарыць у рок-тусоўцы па-беларуску. І самі гэтыя змены сведчаць пра тое, што, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, адраджэнне рухаецца і гэтай сцяжынай.

Натуральна, аб'ектыўны погляд на любую з'яву можа выявіць і станоўчыя, і адмоўныя ейныя бакі. Адмоўнае ў рок-адраджэнні тое, што яго робяць людзі, якія адчувалі на сабе толькі спробы адарваць іх ад каранёў, ніхто не залечваў парэзаныя па жывому раны. Усе яны — выхаванцы рускіх школ, што татальна панавалі ў беларускім горадзе, усе яны амаль не чулі роднай мовы, многія з іх не ведаюць сталінскай рэформы мовы, калі, скажам, у слове «сцяг» першую літару трэба было вымаўляць мякка. І ў іх, і нават у традыцыйных прафесіяналаў можна пачуць «с-цяг», «с-нег», «чакан-не», «адраджэ-не»...

Лепш выглядаюць тут тыя, каго да роднай мовы абавязвае не прафесія, а нармальнае чалавечае пачуццё, для каго беларушчына — не толькі мова сцэны, але і родная мова жыцця. Наконт вымаўлення цяжка падкапацца да «Мроі», «Бонды», «Уліса», музыкі якіх не проста карыстаюцца мовай стала, а нават слэнг у іх свой выпрацоўваецца.

Цяпер не хочацца гаварыць пра шквал беларускамоўных профі, якія, адчуўшы кан'юнктуру, загаласілі са сцэны пра «згвалтаваную Бацькаўшчыну», хоць самі, седзячы па барах, гвалтуюць родную мову суцэльнай маскоўшчынай. Ёсць музыкі, якія клапоцяцца, каб душа іх не разыходзілася з песняй, хоць і не ўсё часам атрымліваецца. Я сам пераходзіў да роднай мовы паступова: ад эпізадычных размоў з сябрамі да больш шырокага ўжывання яе ў грамадскіх месцах. І нават цяпер, калі ўжо і думкі фармуюцца найперш па-беларуску, моцны ўплыў навакольнага білінгвізму і «цяжкае мінулае» часам справакуюць і мяккае «ч» і раздзельнае «д-з». Дык ці варта вінаваціць рок-гурт «Рокіс», які спявае:

Спадыня ноч! Усе думкі маі
Чакаюць сноў тваіх.

Праўда, нельга не звярнуць увагу, што па-беларуску правільна будзе «мае». На жаль, падобных расійскіх лінгвістычных і фанетычных уплываў яшчэ нямала ў беларускіх рок-тэкстах:

Вот аб'явілі конкурс
На лепшага партнёра...
(«Ален»)

Хавайся, бягі, чалавеча, проч,
Бо станеш смяротным духам.
(«Дзіда»)

А можа проста там, дзе ходзім,
Схаваны райскіх яблык смак.
(«Бонда»)

Гэй, хто думае так, як і мы,
Чые словы прабуджаюць умы...
(«Мясцовы час»)

Што ж зробіш, калі школа, дзе родная мова, як і замежная, пачынае вывучацца з трэцяга класа, не можа спрыяць трываламу засваенню беларускага «вось» замест расійскага «вот», разуменню таго, што форма загаднага ладу ад дзеяслова «бегчы» — «бяжы», што «яблык» — гэта адна штука, а калі многа іх, дык будзе «яблыкаў».

Не атрымаўшы ў школе трывалых ведаў па роднай мове, але жадаючы выказвацца не па-чужому, як іх вучылі, а па-свойму, яны самі шукаюць спосабу вызваліцца ад каланіяльнай трасянкі. Аднак гэта падчас толькі паглыбляе праблему. Жаданне вызваліцца ад русізмаў нярэдка прыводзіць да паланізацыі моўнай стыхіі беларускага рока. І калі заходнія дыялекты беларускай мовы натуральна ўзаемадзейнічаюць з польскай мовай, а ўсходнія — з расійскай, дык у рок-паэзіі нярэдка атрымліваецца гэтакі заходне-ўсходні кангламерат:

Гэй, кіроўца, не ляці,
Вязі павольней нас.
(«Ален»)

Эх, слаба
Мадліўся жабрак.
(Віктар Шалкевіч)

Асобную праблему стварае жаданне пэўных музыкаў пастаўляць прадукцыю на два рынкі, г. зн. працаваць у «двухмоўным рэжыме». Я не ведаю, як успрымае рускамоўная публіка рознаварыянтныя песні «Алена», але калі адчуваю сам, што мне даносяць думку праз пераклад, становіцца прыкра:

Гэта канец яскравых сноў,
Гэта канец, прайшла любоў,
І не сустрэнемся мы зноў.

Зразумела, калі табе прыйшлі ў галаву рыфмы «снов-любовь-вновь», дык беларускае «каханне» будзе тут лішнім. І часам гэта падрывае нават давер да ўсёй творчасці артыста, хоць той жа «Ален» у сваім супер-гіце «Беларусачка» зухавата закручвае нешта адваротнае:

Зноў, бэйбі, май, бэйбі.
На беларускае зямлі, бэйбі,
Сваё каханне мы знайшлі.

Натуральна, сённяшняя сітуацыя не надта спрыяльная для беларускамоўных выканаўцаў. Іхняя папулярнасць незалежна ад якасці творчасці моцна абмежаваная. Тут мы назіраем тую ж праблему, што і ў беларускай прэсе, кнігавыдавецкай справе. Але набываць папулярнасць любымі сродкамі не заўсёды апраўдана. Адна справа, калі «Песняры» вынеслі беларускую песню за межы Беларусі, і зусім іншая, калі сваю ўсесаюзную папулярнасць яны спрабавалі падтрымаць рускамоўнымі праграмамі. Яны перасталі суадносіцца з зямлёй, адкуль паходзяць, і іхняе месца занялі іншыя.

Двухмоўнасць наўрад ці выратуе беларускага выканаўцу, бо сама па сабе стварае іншую праблему — засмечанасць ягонай творчасці трасянкай, ад якой імкнуцца пазбавіцца многія свядомыя артысты. Жадаючы, каб іхнюю мову не называлі «испорченным русским», адны, як мы сказалі, шукаюць паратунку ў паланізмах («Кіроўца», «мадліцца», «варункі»). Другія ствараюць неалагізмы. Гэта ўжо больш перспектыўны шлях.

Падаруй сваіх вейкаў млоч.
(Вальжына Цярэшчанка)

Не сумуй, збірай сяброў
карагод
І кружэлку завадзі.
(«Ален»)

Заўважаецца, што розныя шляхі часам выпрабоўваюць адны і тыя ж выканаўцы. Гэта — пошук, які выбраў увесь народ: пошук свайго Я. І гэтае з гонарам вымаўленае Я Беларусь скажа тады, калі яно будзе ў свядомасці не толькі духоўнай эліты, але і мас. Дзеля гэтага не забывайма пра мас-культуру.

Вітаўт МАРТЫНЕНКА.

## *Кветкі — вядучым*



Спадары З. Бандарэнка і В. Аксянцюк па праву лічацца лепшымі дыктарамі Беларускага тэлебачання.

Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.

*Пра тых, каму мы ўдзячныя*

# вельмі сорамна

З верою і надзеяй у лепшую долю беларускага народа даследаваў вучоны і пісьменнік С. Александровіч шляхі беларускай літаратуры і айчыннага друку другой паловы XIX — пачатку XX стагоддзяў — той перыяд, калі, нягледзячы на ўсе ганенні, беларускае слова прабілася да народа мужным голасам К. Каліноўскага, Ф. Багушэвіча, Цёткі, Я. Коласа, Я. Купалы, М. Багдановіча, стала носьбітам ідэй нацыянальна-вызваленчага руху, прагрэсіўнай грамадскай думкі, садзейнічала развіццю беларускай нацыянальнай культуры і асветы («Пуцявінамі роднага слова», «Гісторыя і сучаснасць»).

Вучоны С. Александровіч зрабіў самую высокую стаўку — на нацыянальную гісторыю, культуру, літаратуру, мову. Зганьбаваных і абылганых невукамі, занядбаных яго суайчыннікамі. Для яго не было больш запаветнага жадання, чым жаданне дапамагчы гвалтоўна адарванаму ад уласных каранёў беларускаму народу ўбачыць сябе Народам. Са сваім адметным тварам, багатай духоўнай спадчынай, прыгожай самабытнай мовай. Здавалася, што дзеля аднаго нават факта, які пацвярджаў гэта, нястомны архівіст гатовы быў аб'ехаць і абысці ўсе бібліятэкі, перагледзець фонды многіх архіваў, падняць усе невядомыя матэрыялы. Разумеючы, што заклікамі народ не пераканаеш, ён шукаў дакументы, факты, мноства фактаў, якія б сведчылі на карысць народа, узвышалі яго ва ўласных вачах, выводзілі з пакутлівага летаргічнага сну бяспамяцтва.

Усё яго жыццё — ПОШУК і АДКРЫЦЦЁ НЕВЯДОМАГА. Вучоны С. Александровіч ніколі не ішоў пратоптанымі сцежкамі. Яго шлях — па цаліку. І таму колькі ні будзе напісана новага пра «Мужыцкую праўду» К. Каліноўскага, выдавецкую дзейнасць суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца», дзейнасць Антона Грыневіча, пра «Нашу хату», «Нашу долю», «Нашу ніву», «Дзянніцу», «Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні», пра беларускіх народнікаў і сувязі Тараса Шаўчэнкі і Яна Райніса з беларускай зямлёй, пра пераклады Я. Купалы і яго сувязі з польскай літаратурай.., мы будзем спасылацца на С. Александровіча. Прыводзіць яго аргументы, меркаванні, вывады, абапірацца на яго знаходкі. (Калі мы сумленныя даследчыкі, а не навуковыя няздары, якія ўпотайкі расцягваюць спадчыну С. Александровіча па сваіх «навуковых» працах).

Колькі новых краязнаўчых і біяграфічных нарысаў пра пісьменнікаў П. Багрыма, Цётку, З. Бядулю, А. Міцкевіча, К. Чорнага, М. Танка, П. Броўку, І. Шамякіна ні з'явіцца, мы будзем помніць непаўторныя і арыгінальныя матэрыялы С. Александровіча («Незабыўнымі сцежкамі», «Па слядах паэтычнай легенды», «Тут зямля такая», аповесці пра Я. Коласа «Ад роднае зямлі», «На шырокі прастор», «Крыжавыя дарогі»).

Колькі новых хрэстаматый па беларускай літаратуры ні выйдзе, мы будзем карыстацца знойдзеным, сабраным, укладзеным вучоным С. Александровічам з творчай спадчыны Яна Баршчэўскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, У. Сыракомлі, Ф. Багушэвіча, К. Каганца, Я. Лучыны, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, Ц. Гартнага і іншых пісьменнікаў.

У часы застою (!) С. Александровіч падняў беларускую навуку да ўзроўню еўрапейскай, бо кіраваўся ў сваёй працы толькі СУМЛЕННЕМ. І тыя, што ішлі побач з ім ці ідуць пасля яго, адчуваюць сябе ўпэўнена, бо маюць надзейны і трывалы грунт пад нагамі.

...Мудры беларускі татарын Сцяпан Хусейнавіч Александровіч адкрываў для нас Беларусь, беларускі народ, яго гісторыю, культуру, мову, характар, а мы, каму пашчасціла працаваць з ім, кожны раз адкрывалі яго для сябе як вучонага энцыклапедычных ведаў, вялікай адукаванасці, выключнай працавітасці. Як таленавітага педагога і асветніка, сумленнага, справядлівага і мужнага чалавека.

У нашым маральна разбэрсаным ілжывым свеце, страшэнна несправядлівым і жорсткім да яго, ён заўсёды заставаўся Чалавекам светлай і чулай душы, мудрага і добрага сэрца, які бачыў, разумеў і шанаваў людзей, узвышаў сваёй дабрынёй і чалавечнасцю. Бо не толькі ў навукова-пісьменніцкай працы, АЛЕ І Ў ЖЫЦЦІ спавядаў духоўнасць Скарыны, мужнасць Каліноўскага, высакароднасць Багдановіча. Мудрасць і духоўнасць беларускай зямлі.

Любоў ЛАМЕКА.

*З галоўным рэдактарам выдавецтва «Беларусь» Аляксандрам Лукашуком мы гутарылі задоўга да студзеня 1992 года. І ўсё ж пытанні і адказы былі спрацыраваны на тое, што падорыць выдавецтва чытачу ў наступным, а зараз ужо ў сёлетнім годзе. Калі раней і ўсплывала ў памяці выдавецтва «Беларусь», то найбольш пакрытымі пылам на паліцах кнігарань перакладамі прац крамлёўскіх «гаспадароў» ці партызанскімі мемуарамі. Дык чым будзе адрозніваца беларуская грамадска-палітычная літаратура 1992 года ад кніг выдання мінулых гадоў?*

# ВЯРТАННЕ НА СВАЮ ДАРОГУ

***Гутарка нашага карэспандэнта з галоўным рэдактарам выдавецтва «Беларусь» Аляксандрам Лукашуком.***



**— Спадар Аляксандр, як вы думаеце, ці можна заўважыць перамены, якія адбываюцца ў нашым жыцці, калі глядзець вакол сябе, не выходзячы з выдавецкіх сцен?**

— Калі гаварыць пра жыццёвыя абставіны, то яны, безумоўна, змяніліся. Ужо толькі тое, што можна выдаваць кнігі без купюр,— гаворыць само за сябе. З цяжкасцю мяняюцца толькі людзі. Шмат яшчэ іх ідзе ў выдавецтва са старымі ідэямі. Здараецца, некаторыя аўтары так і не здольны зняць з сябе ідэалагічныя шоры.

**— З вашага адказу я зразумеў, што «Беларусі» не стае аўтараў...**

— У некаторай ступені — так. Але ж не стае аўтараў адметных і цікавых, якія прымушаюць чытача думаць, разважаць, аналізаваць.

**— І ўсё ж, чым будзе багаты 1992 год?**

— Сто дваццаць восем выдавецкіх пазіцый. Больш дзесяці аддадзена школьным падручнікам. Шмат мяркуем выпусціць і паштовак. Спадзяёмся, што многім прыйдуцца да спадобы камплекты, распрацаваныя Г. Габрусем і А. Цітовым,— «Помнікі архітэктуры Беларусі» і «Геральдыка Беларусі».

Кніжныя выданні «Беларусі» носяць самы разнастайны характар. Эканамічная тэма суседнічае з прыродазнаўствам, медыцынская літаратура з мастацкай публіцыстыкай. Чытачоў павінны прывабіць кнігі Васіля Быкава «На крыжах», Алеся Адамовіча «Апакаліпсіс па графіку». Вядомыя пісьменнікі аналізуюць балючыя праблемы, перад вырашэннем якіх стаіць беларускі народ. Згаданыя кнігі адкрываюць выдавецкую серыю «Плошча свабоды».

Праўда, яны выйдуць невялікім накладам — па дзесяць тысяч паасобнікаў. Кнігагандаль жа замовіў і таго меней. Спадзяёмся на ўласную выдавецкую кнігарню, якая працуе ў падземным пераходзе ля станцыі метро «Плошча Перамогі».

**— І сапраўды, здзіўляе інертнасць, нізкі ўзровень свядомасці нашага чытача...**

— Але ж вінаваты і самі выдавецтвы. Дзесяцігоддзямі людзям забівалі мазгі ўсялякай палітычнай лухтой, і цяпер цяжка адразу ўсё перайначыць. Таму трэба прапаноўваць выданні перыядычныя, раней невядомыя. Спадзяёмся, што выкліча пэўную цікавасць зборнік «Убить президента». Пад адной вокладкай можна сустрэцца з Пятром Сталыпіным, Львом Троцкім і Ігнатам Грынявіцкім, Аляксандрай Ізмайловіч...

Выдатна ілюстраваная кніга «Из тьмы веков светлеющие лики» знаёміць з Ф. Скарынам і К. Тураўскім, М. Гусоўскім і К. Каліноўскім...

**— Спадар Аляксандр, вы прывялі некалькі назваў на расійскай мове...**

— Здагадваюся аб вашым пытанні. Многія выданні па-расійску — вымушаны выдавецкі крок ва ўмовах сённяшняй эканамічнай сітуацыі. Але ж асноўны наш клопат — беларуская кніга. Як на мой погляд, цікавасць выкліча сустрэча з працай маладога гісторыка Генадзя Сагановіча «Вайна за Беларусь: 1654—1667». У кнізе — падрабязна, цікава апавядаецца пра вайну паміж Маскоўскай дзяржавай і Рэччу Паспалітай. Кніга ілюстравана тагачаснымі гравюрамі. Словам, выданне — і для гісторыкаў, і для краязнаўцаў, і для школьнікаў... Праўда, наклад усяго дзесяць тысяч паасобнікаў. І не выключана, што кніга «Вайна за Беларусь» адразу пасля выдання стане бібліяграфічнай рэдкасцю. Упершыню на Беларусі будзе выдадзена перакладзеная з польскай мовы манаграфія Юрыя Туронка «Беларусь пад нямецкай акупацыяй». Многія факты, выкладзеныя ў ёй,— адметная ілюстрацыя пакутнага шляху Беларусі да сваёй незалежнасці.

Але ж, безумоўна, не трэба спяшацца радавацца невялікім здабыткам. Працы наперадзе шмат, і рабіць яе патрэбна, не забываючыся пра Беларусь.

Распытваў
**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

Беларускае замежжа




**Выйшаў чарговы нумар (12/91-1/92) «Часопіса», што выдаецца ў Беластоку.**

**Беларускамоўная старонка адкрываецца гутаркай Юрыя Каліны і Аляксандра Максімюка з Зянонам Пазьняком. На пытанне карэспандэнтаў: «Барыс Ельцын, выступаючы ў Вярхоўным Савеце Беларусі, рыхтуючы грунт для дамовы аб Садружнасці Незалежных Дзяржаў, сказаў: чарнобыльская бяда — гэта выключна клопат Беларусі, ёй адной з гэтым і змагацца, міждзяржаўныя дачыненні ў новай садружнасці павінны грунтавацца на факце, што нам удалося перамагчы путч. Як глядзіцё на гэта?» — Зянон Пазьняк адказаў: «Як кажуць, каму што — Ельцыну важна, што ён перамог путч, а для нашай нацыі істотнае, што памірае яна ад Чарнобыля. Тут узровень палітыка, але справа не ў тым. Тут ёсць доля палітычнага цынізму — калі Расія паводзіць сябе такім вераломным чынам, што, ні з кім не параіўшыся, забірае агульную маёмасць (дзяржаўны банк, золата, валютны і алмазны фонды, маёмасць пасольстваў і арміі) і прэтэндуе быць спадкаемцам Саюза і выплочваць яго замежныя пазыкі, дык на якой падставе не хоча яна выплочваць кампенсацыі Савецкага Саюза за чарнобыльскую катастрофу? Толькі таму, што зараз Беларусь у пэўнай ступені залежная ад Расіі — пастаўкамі нафты, толькі таму, што можна шантажыраваць Беларусь, значыць, можна не лічыць народам той народ, які церпіць ад Чарнобыля...»**

**«Дзе падзеліся «Дубіны»?» — так назваў свой артыкул Кастусь Разумак, дзе гаворыцца пра музычны калектыў «Дубіны», які апошнім часам знік са сцэн Беласточчыны. Мікола Сахарэвіч у артыкуле «У цяні пухлаўскай ліпы» расказвае пра святыя мясціны Падляшша. Чытачы «Часопіса» могуць пазнаёміцца з пачаткам прэзентацыі прац інжынера спадара Барыслава Рудкоўскіна, які ўжо шмат гадоў займаецца вывучэннем тапаграфіі і тапаніміі Падляшша, асабліва роднай яму Бельшчыны.**

**«Канцавізна — невялічкая вёсачка непадалёку Суража. Вядомая ў 1647 г. як «засцянак ‚Кунцэвізна». Заснаваная, пэўна, яшчэ ў XV стагоддзі, пастаўляла свежую рыбу з Нарвы для суражскага замка. Нешта з таго занятку засталося і па сёння ў жыхароў вёскі. Смакавітага шчупака, не гаворачы ўжо пра плотак і лінёў, можна тут спрабаваць не ў адной хаце. Але, пакуль пад канец мінулага лета трапілі мы ў тую вёсачку, не давала спакою пытанне, ці знойдзем яшчэ там людзей, з якімі можна будзе пагаварыць па-свойму і адкрыта...» — так пачынаюцца нататкі М. Сахарэвіча «Каб больш не палілі нашых дамоў...»**

**З літаратурных твораў друкуюцца вершы Людмілы Рублеўскай.**

**В. Ш.**

Чыталі?

# «У свой лес, як у цёплы дом...»

Выдавецтва «Полымя» яшчэ зусім нядаўна несла да чытача амаль толькі расійскамоўную краязнаўчую літаратуру пра Беларусь. І не надта мы гэтаму дзівіліся.

Апошнім часам і «Полымя» паварочваецца тварам да роднай мовы. Сведчанне гэтаму — новыя краязнаўчыя кніжкі. Адна з іх — зборнік нарысаў Леаніда Пракопчыка «Дрэмле памятка дзён...». Літаральна кожны з твораў, якія сабраны разам, уяўляе сабой узор, калі можна так сказаць, класічнага краязнаўства. Гістарычныя сведчанні, інфармацыю пра археалагічныя адкрыцці аўтар спалучае з уласнымі ўражаннямі ад сустрэч з замкамі, палацамі (а часам, на вялікі жаль, і з руінамі).

У нарысе «Любчанская даўніна» Леанід Пракопчык аналізуе гаворку мясцовых жыхароў: «Гаворка жыхароў лясных вёсак і хутароў да гэтага часу адрозніваецца ад гаворкі «занямонцаў-любчанцаў»... Праўда, цяпер тая мяжа ўсё больш размываецца — насельніцтва па абодвух берагах Нёмана змешваецца. Але ў старых вёсках сярод людзей сярэдняга і сталага ўзросту адрозненні прыкметныя. Напрыклад, жыхар навагрудскага берага, любчанец, скажа пра пушчанскія лясы: «Мне гэта пушча, гэта глуш, што турма». Карэнны ж пушчанец, вярнуўшыся з-за Нёмана, зазначыць: «У свой лес, як у цёплы дом, трапіў». А яшчэ можа пасмяяцца дабрадушна, вядома, утрыруючы тое, як гавораць любчанцы: «Гарол сеў на гарышча, а Гарасім яго ганучай».

Пішучы пра тыя ці іншыя мясціны, Л. Пракопчык імкнецца разгадаць сакрэт словаўтварэння геаграфічных назваў. І за гэтым клопатам краязнаўца незаўважна абуджае і ў чытача цікавасць да тапонімаў.

Адметная рыса большасці нарысаў зборніка «Дрэмле памятка дзён...» праяўляецца ў тым, што аўтар паказвае (адным-двума абзацамі, вобразнай дэталлю, кароценькім эпізодам) стаўленне сваіх герояў да беларускай мовы. Пра Станіслава Нарбута: «...Ён, дасканала валодаючы некалькімі еўрапейскімі мовамі, з задавальненнем гаварыў са сваімі пацыентамі, асабліва з вёсак, па-беларуску». Пра Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча: «І ўжо ў Люцынцы, амаль у саракагадовым узросце, ён пачынае займацца літаратурнай творчасцю. Піша не толькі па-польску, як многія беларускія літаратары таго часу, а, па словах Купалы, «паслухаўшы сэрца, бярэ дуду беларускую ў рукі». А яшчэ ж у кнізе нямала згадак пра Я. Купалу, З. Бядулю, У. Самойлу, Ядвігіна Ш. Іх лёсы, іх служэнне роднаму слову пададзены ў сувязі з іх роднымі мясцінамі на Беларусі. Гэта робіць кнігу краязнаўчых нарысаў вартай і патрэбнай для шырокага выкарыстання ў школе.

Ганна ЦІТАЎКА.

## Слоўцы, якія паслужаць

*Павел МІСЬКО*

# «Вазьмі косу, йдзі на росу...»

— Падэрва з гэтым брыкетам. Але да цямна ўтахцілі ў падпаветку ўвесь. Каб яшчэ дроў прыстарацца, то і перазімавалі б.

— А ў мяне з дрыўмі не бяда, расстаралася. Беразак... Ваня Насцін бензапілкаю раз-два і пачыкрыжыў. Удзядзеў ужо, умека, растаропа... Прыхапіўся яшчэ і калоць... Дзякуй, кажу, з гэтым я сама ўпраўлюся, не калодкі дубовыя. Даю яму паўлітэрку — зарабіў жа... Дак ён давай мне выпыты рабіць, дзе дастаю, сёе ды тое. Хацеў, каб я рапарты яму склала, х-хэ!..

* * *

— Хіба мо ў цябе якое адмысловае добрыва завялося? Такая сопкая, смачная бульба. А мая пахрасцілася ўжо, вары-развары — хрупачка...

* * *

З народных песень:
«Ой, там, на гары, вазы трашчаць, ярмы рыпяць, валы томна йдуць...»
«Пад яварам-яварцом стаіць дзеўка з малайцом».
«Вазьмі косу, йдзі на росу травічаньку цяці...»

* * *

— Дзе ты такога ўлегістага сабаку дастаў? На зайцоў з ім можна хадзіць... А мой жа талалай баіцца пысу з падваротні высунуць.

* * *

Шчамляцца, шчаміцца, шчэмка...
Першае — гэта калі на што-небудзь высокае, стаўбурыстае лезе рызыкант і не баіцца. Другое — пішчом пралазіць, плішчыцца ў якую вузкую шчэльку. Трэцяе — тое, што адшчамілася ад палена, вострае, як стрэмка.

* * *

Вецер дрэвы шаматае, шкуматае, цярэбіць, блытае кудлы, гутатае, чэша, гладзіць, лашчыць, заплятае ў косы і зноў растрэпвае, камлычыць, трасе, гне і ломіць, гушкае-люляе, тапырыць і дурэе, заблудзіўшыся сярод галін і вецця, кветак і лісця...

* * *

— Ну й шэўрадзь! Ужо тут, ужо расселіся, як на печы... Акыш! Вы ж бачылі ўжо гэтае кіно, дайце людзям сесці. Кыш, кажу, акселероты, сексафаністы чортавы!

* * *

— Даўно тут? А Сцяпан дзе?
— Не, толечкі прыйшоў. А Сцяпан вунё — шкутыльгае, чыкілдун гэты. Адсюль чуваць, трашчаць ногі, як у казы.

* * *

— Ён мне толькі раз заехаў у вуха...
— І што — шаламіць у галаве, добра ўгрэў?
— Званы трохі звоняць.
— Званы... Ты ж пастукай у віхор, чуеш? Трупціць галава.
— Не, гэта пратэз у роце браскае. Але ж і я Зубра ўплазаваў. Мо спражэцца нават, ніякі вядзьмак не адхукае.



Мастак Рыгор Сітніца. «Курапаты. Крыж пакут».
Фотарэпрадукцыя Ул. КРУКА.

*Для дзяцей і дарослых*

*Алесь КІКЛЕВІЧ*

# Вайна каралеўстваў УСЁ І НІШТО

*Лінгвістычная казка*

Колькі існаваў свет, каралеўствы Усё і Нішто вялі паміж сабой вайну. Калі ў адным каралеўстве ўсе мужчыны насілі бароды, дык у другім — ніхто не меў барады. Калі на адзін бок мяжы ўсе снедалі роўна ў дзесяць, то на другі бок — ніхто не снедаў роўна ў дзесяць. Калі ў адной краіне жанчыны заўсёды ўсміхаліся, то ў другой — не ўсміхаліся ніколі.

І наадварот. Калі адзін кароль нікому не верыў, дык другі — верыў абсалютна ўсім. У адным каралеўстве нідзе не было кошак і сабак, а ў другім кошкі і сабакі былі ўсюды, ну проста скрозь, дзе вы толькі можаце сабе ўявіць. Калі ў адной краіне не было ніводнага лысага, то ў другой — лысымі былі ўсе, уключаючы караля, кошак і сабак.

Як бачыце, гэта была барацьба роўных сапернікаў, і на выпад аднаго з іх заўсёды знаходзіўся трапны адказ другога.

І вось аднойчы кароль адной дзяржавы паслаў каралю другой тэлеграму, якая ўсім сваім зместам азначала працяг баявых дзеянняў. Тэкст тэлеграмы быў такі: «Хлусня, хлусня, хлусня і нічога больш». Кароль-сапернік, атрымаўшы тэлеграму, задумаўся. Дастойны адказ не знаходзіўся, таму што сказаць «Хлусня, хлусня, хлусня і ўсё больш» было б няправільна, незразумела.

«Наша ўзяла! — трыумфавала каралеўства Нішто.— Перамога!»

Аднак на наступны дзень з каралеўства Усё прыйшла дэпеша: «Частка ўсіх нашых жыхароў — воіны». Тут прызадумаўся ўжо кароль другой краіны. Спачатку ён хацеў аўтаматычна адказаць: «Частка ніякіх нашых жыхароў — не воіны», — але і сам не зразумеў гэтага выказвання. Тады ён паправіўся: «Частка ніводнага нашага жыхара — не воіны». Але гэта ўжо было поўнае глупства. Кароль паклікаў усіх сваіх міністраў і генералаў. Яны раіліся ўсю ноч, але нічога так і не вырашылі.

«Ура! Перамога!» — крычалі на другім баку, ды рана. Бо назаўтра ў каралеўства Усё зноў прыйшла тэлеграма: «Не зважаючы ні на што, мы не снедаем у дзесяць». «Ах вы, гадзюкі, — падумаў кароль. — Зараз я вам... А мы снедаем толькі ў дзесяць, — пачаў ён адказ,— зважаючы на ўсё...» Канец фразы атрымаўся нейкі няўдалы: што значыць «зважаць на ўсё»? Ці так хто гаворыць? Хіба не... Як ні круціў гэта выказванне кароль, а так нічога добрага прыдумаць не здолеў. У лісце, які ён адправіў свайму праціўніку, гаварылася: «Я заўсёды смяюся пасля ўсіх». Аднак у каралеўстве Нішто гэты ліст выклікаў перапалох. Хацелася адказаць так: «А мы ніколі не смяёмся пасля нікога». Але словазлучэнне «пасля нікога» здавалася нязграбным і не было годным такой магутнай дзяржавы. Сказаць жа «А мы ніколі не смяёмся пасля ўсіх» было б правільна, але азначала б капітуляцыю перад праціўнікам.

Невядома, колькі б яшчэ працягвалася гэта вайна, калі б у справу не ўмяшаўся кароль суседняй дзяржавы Нешта. Ён паслаў абодвум каралям лісты з аднолькавым зместам, у якіх гаварылася: «Ваша вайна бясконцая і бяссэнсавая. Вы ўпэўнілі сябе ў тым, што непадобныя адзін да аднаго, як вада і агонь, як ноч і дзень, як зямля і неба. Але гэта няпраўда. Вы падобныя адзін да аднаго, як левая і правая рука, як вячэрняя і ранішняя зорка, як верхняя і ніжняя плоскасць цыліндра. Паглядзіце: адзін з вас усё прымае на веру, другі — нічога. Але ж гэта значыць, што ён не прымае на веру ўсё.

Альбо другі прыклад. У адной дзяржаве ўсе ходзяць на хадулях. Ну добра, хай сабе ходзяць, але мы запомнім: усе. У другой дзяржаве ніхто не ходзіць на хадулях. Інакш кажучы, не ходзяць на хадулях таксама ўсе. Дык якая ж паміж вамі розніца?

Калі вы ўжо адрозніваецеся ад каго-небудзь, дык ад мяне. Бо ў маім каралеўстве Нешта не ўсе ходзяць альбо не ходзяць на хадулях, не ўсе мужчыны носяць альбо не носяць бароды, не ўсе жанчыны ўсміхаюцца альбо не ўсміхаюцца. Але і без мяне вам было б нельга, бо я знаходжуся паміж вамі, як цела чалавека — паміж правай і левай рукой, як ноч — паміж вячэрняй і ранішняй зоркай».

Прачытаўшы гэты ліст, адзін кароль усё зразумеў, другі ж — нічога. Але гэтага хапіла, каб каралеўствы перасталі ваяваць і на той зямлі запанаваў пакой.

А як жа інакш? Толькі неразумныя істоты могуць весці вайну з сваім адлюстраваннем.

Вучымся!

# РАЗМОЎНІК ВЕТЛІВАГА ГОСЦЯ

*для гасцявання ў Францыі*

1. Добры дзень!
Добрай раніцы!
Bonjour!
бо̃жу́р!

Добрай раніцы!
Bon matin!
бо̃ матэ̃!

Добры вечар!
Bonsoir!
бо̃суа́р!

2. Сардэчна запрашаем!
Soyez le bienvenu!
суайе́ лё бье̃вёню́!

Да жанчыны:
Soyez la bienvenue!
суайе́ ля бье̃вёню́!

3. Як даехалі (даляцелі)?
Avez vous fait un bon voyage?
аве́ ву фэ-тэ̃бо̃ вуайя́ж?

4. Я вельмі рады (радая) вас бачыць.
Je suis heureux (heureuse) de vous voir.
жё сюі-зерё (сюі-зерёз) дё ву вуа́р.
(У слове – „дё" „д" гучыць цвёрда)

5. Як сябе адчуваеце?
Comment vous portez-vous?
кома̃ ву портэву́?

6. Дзякуй, цудоўна.
Merci, a merveille.
мерсі́, амэрве́й.

Выдатна, дзякуй.
Tres bien, merci.
трэ бье̃, мерсі́.

7. Да пабачэння!
Au revoir!
о рэвуа́р! (орвуа́р!)

Да заўтра
A demain!
а дэмэ̃!

Да хуткай сустрэчы!
A bientôt!
а бье̃то́!

Добрай ночы!
Bonne nuit!
бон нюі!

Бывайце!
Adieux!
ад'йё!

8. Шчаслівай дарогі!
Bonne route!
бон рут!
Bon voyage!
Бо̃ вуайя́ж!

**Знакі а̃, о̃, е̃, э̃ абазначаюць насавыя галосныя. Наша фанетычная транскрыпцыя на жаль не ўлічвае ўсіх асаблівасцей гэтай групы гукаў, а знакам э̃, напрыклад, мы вымушаны абазначыць некалькі розных насавых галосных. Самастойна навучыцца вымаўленню гэтых галосных, як і ўсіх іншых французскіх моўных гукаў, можна па спецыяльных падручніках, але лепш з дапамогай аўдыёсродкаў.**

# Кароткі слоўнік эканомікі

**АКЦЫЗ.** Да эканомікі мае ўскосныя адносіны, затое без яе існаваць не можа. Згодна з паважаным ТСБМ, у капіталістычных (вядома, бо савецкі ж дзяржаўны апарат толькі святым духам жывіўся!) краінах — ускосны падатак на прадметы шырокага спажывання, які прадпрыемцы ўключаюць у прадажную цану тавару.

**БАНК.** Гэтую ўстанову ніяк не абмінуць на шляху да рынку. У італьянцаў так некалі называлі вялікі ўслон, які звычайна выносілі на вуліцу, каб пасядзець каля дома на свежым паветры ды пабалакаць з суседам, затым — лаўку мянялы. Банкаўскія канторы ў Заходняй Еўропе ўзніклі недзе ў XIV стагоддзі. Тут акумулююцца (назапашваюцца) грашовыя сродкі, якія неадкладна пускаюць у справу — пазычаюць пад працэнты, па заказу аднаго з кліентаў за яго робяць разлік з другім; тут улічваюць вэксалі (у перакладзе з нямецкай мовы літаральна — абмен, папера-абавязацельства аплаты пэўнай сумы), здзяйсняюць эмісію (выпуск) грошай і каштоўных папер, а таксама розныя аперацыі з золатам і г.д. Па характары дзейнасці ў нармальных, зразумела, рынавых умовах (савецкі выпадак — выключэнне) банкі падзяляюцца на эмісійныя, камерцыйна-дэпазітныя, інвестыцыйныя (у асноўным укладваюць сродкі ў прадпрымальніцтва), экспартныя (крэдытуюць знешні гандаль), іпатэчныя (пазыка пад заклад нерухомай маёмасці), ашчадныя (з імі большасць з нас трохі знаёмая) і інш.

**БАРТЭР.** Трохі смешна, але нават такое саліднае выданне, як Савецкі Энцыклапедычны Слоўнік, 1979 г. (і само сабою — ТСБМ) яшчэ не ведаюць, што гэта такое, а мы зараз адчуваем яго на ўласнай скуры. Словам, гэта — калі нехта, скажам, шыла мяняе на мыла ці наадварот, а табе застаецца толькі камечыць неатаварны рубель у кішэні, бо справа абыходзіцца без удзелу грошай. Тэрмін пайшоў ад англічан і абазначае прамы абмен аднаго тавара на іншы.

*(Заканчэнне. Пачатак у № 3.)*

Зала знаеміць нас з «мадоннамі» ў жыцці Багдановіча: мачыхамі Аляксандрай Волжынай і Аляксандрай Мякотай; Ганнай Какуевай, Ганнай (Нютай) Гапановіч, Ганнай Валасовіч. Праз столь залы праходзіць выява — крыж пакуты.

*Пятая зала.* Яе адухаўляе рамантычны вобраз Страцім-лебедзя — легендарнай біблейскай птушкі, якая не села ў Ноеў каўчэг, а паляцела над прорвай патопу, несучы на сваіх крылах дробных птахаў.

У афармленні залы ўвасоблена думка Багдановіча аб асабістай адказнасці мастака за лёс Радзімы і народа, адчуванне маральнага цяжару на плячах паэта. Бел-чырвона-белая столь і сцены перадаюць адбіткі крылаў Страціма і сімвалізуюць трагічны канец паэта ў Ялце, што асацыіруецца з радкамі верша:

Ад усіх цяпер патомкі ёсць,
Ды няма адных—Страцімавых.

Важную ролю ў раскрыцці тэмы залы мае ліра — інструмент XIX стагоддзя, які калісь належаў жыхару Менска Зыгмунту Казлоўскаму. Тут мы маем магчымасць ацаніць выяўленчую сілу сэцэсіі ў наданні музычнаму інструменту ролі сімвала. Напятыя струны ліры «перакідваюцца» цераз столь у выглядзе прамяністых ліній і спускаюцца на супрацьлеглую сцяну да партрэта песняра. На ўмоўныя струны ўздоўж сцен пакладзены радкі з яго твораў, якія гучаць шматзначна і абагульняюча:

Маці родная, Маці-Краіна,
Не усцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач, Ты прымі свайго сына,
За Цябе яму ўмерці дазволь!

Рэліквія залы — асабісты гадзіннік Максіма Багдановіча, што адстукаў яму апошнія хвіліны жыцця. Падарунак бацькі да заканчэння гімназіі, затым уласнасць брата Мікалая; Павел Адамавіч перадаў рэліквію Дзяржаўнаму гістарычнаму музею Беларусі, адкуль ён трапіў сюды — у пятую залу.

Агледзеўшы інтэр'еры і экспанаты музея, я прыйшла да высновы, што мы павінны лепш ведаць мастака Агуновіча і яго творчасць.

Да ведама чытачоў «Нашага слова»: Эдуард Канстанцінавіч Агуновіч — кніжны графік. За ілюстрацыі да паэм «Сымон-музыка», «Тарас на Парнасе» і да падручніка па беларускай мове ўзнагароджаны дыпломамі першай і другой ступеней. Аднак сапраўднае яго прызначэнне—мастацкае афармленне беларускіх музеяў, сярод якіх асабліва вылучаюцца Купалавы ў Менску і Вязынцы, музей Я. Коласа, Заслаўскі музей-запаведнік. Больш за два гады Агуновіч падарожнічаў па Беларусі, збіраючы прадметы даўніны. Яго здабыткі — 9 слуцкіх паясоў, літаграфіі Пешкі, многае іншае, што цяпер служыць беларускай культуры. Заслаўскі музей-запаведнік стаў пераломным фактарам у лёсе мастака. З гэтага часу ён асэнсавана працуе на карысць Бацькаўшчыны. Яго жыццёвым дэвізам сталі словы Уладзіміра Караткевіча: «Нашу культуру за нас ніхто не зробіць».

# У вянок паэту

**Ірына КРЭНЬ.**

*Іван МУРАВЕЙКА*

## Забалела ножка

У сараканожкі забалела ножка:
Можа, застраміла ці аб камень збіла?
Прыйшла яна да доктара — войкае і вохкае:
— Ой, памажыце! Ох, памажыце!
Хворую ножачку палячыце, змажце ёдам, перавяжыце.
Доктар агледзеў сараканожку.
— Я мігам,— гаворыць,— вылечу ножку.
Скажы, забалела ў цябе якая?
— А я і сама таго, доктар, не знаю.
Бачыш сам — сорак іх у мяне...
— Гэта?
— Не.
— Гэта?
— Не.
— Гэта?
— Не.



— А можа, баліць не нага, а жывот? Разяў, калі ласка, рот.
— Ды што вы, што вы! Хіба я дурная?.. Ножка баліць.
— Якая?
— Вунь тая.
— Гэта?
— Не.
— Гэта?
— Не.
— Вы пасмяяцца прыйшлі з мяне.
Заплакала сараканожка:
— Ой, баліць, баліць мая ножка!
Задумаўся доктар: «Што мне рабіць?
Як сараканожку лячыць?»

*Артур ВОЛЬСКІ*

## Пчала



*Рана-раненька пчала*
*Пакідала вулей,*
*Заспявала-загула,*
*Каб усе пачулі:*
*— Жу-жу-жу,*
*Жу-жу-жу,*
*Я без справы не сяджу,*
*Жу-у!*

*Палячу я на лужок,*
*Потым — на палетак.*
*І збяру духмяны сок*
*Самых лепшых кветак.*
*Жу-жу-жу,*
*Жу-жу-жу,*
*Я над кветкамі кружу,*
*Жу-у!..*

*Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ*

## СТАЛОЎКА ДЛЯ МАШЫН




У сталоўцы для машын
Не напітак, а бензін.
Без яго не будзе сілы
Ні ў аўтобуса, ні ў ЗІЛа.
Не скрануцца на дарозе
Самай хуткай дапамозе.
Не пацягне — хоць ты плач!—
Нават трэсачку цягач.
Вось чаму ў сталоўцы гэтай
Сто машын зімой і летам.
І стаяць машыны ўсе
Акуратненька ў чарзе.

*Станіслаў ШУШКЕВІЧ*

## ВЕРАБЕЙКА



Верабейка ўвесь дрыжыць:
— Як тут жыць? Як пражыць?
Набліжаецца зіма —
Цёплай вопраткі няма.
Чык-чырык! Чык-чырык!
Я ад холаду адвык.
І азяб я, і прамок,
Слаба грэе мой пушок.
Вецер. Холад. Дождж імжыць...
Як тут жыць? Як пражыць?
Чык-чырык! Чык-чырык!
Я ад холаду адвык.

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

## СНЕЖНЫ ДЗЕД

Колькі шуму, колькі смеху:
Дзеда лепім мы са снегу!
Задала зіма работы —
Па двары кацілі ўтрох
І паставілі ля плота.
Дзед стаіць, хоць і без ног.
Замест рук уткнулі палкі,
Вочы — вугалю кавалкі,
Нос — чарэпак з гладыша,
Барада — шматок кудзелі,
А на лысіну надзелі
Кош замест капелюша.

Ну і дзед! Відаць, яму
Тут стаяць усю зіму.



Малявала Людміла РУБЛЕЎСКАЯ.

*Па старонках раённай газеты*

# Пачынаецца з роднай старонкі

Невялікі наклад у докшыцкай раённай газеты: усяго толькі тры тысячы паасобнікаў. Але ж «Родныя вытокі» (новая назва колішняй «Ленінскай трыбуны») сярод жыхароў Докшыц і раёна — выданне самае папулярнае. Яно і зразумела: людзі найперш імкнуцца ведаць, што робіцца ў іх родных мясцінах.

У кожным нумары знаходзіцца матэрыял, прасякнуты клопатам за адраджэнне роднай мовы. Таму зразумела, што ў «Дыскусійнай трыбуне» газеты руплівыя беларусы выступілі супраць заявы аднаго з чытачоў, які прапануе выдаваць мясцовую газету на расійскай мове. Так, ветэран працы П. Заброцкі зазначае: «...Я не беларус па нацыянальнасці, але не адчуваю няручнасці, калі чытаю газету. Беларуская мова не нямецкая, вывучыць яе няцяжка, тым больш беларусу...»

Аргумент нештатнага карэспандэнта І. Фурсевіча: «Згубіць мову — згубіць народ. А згубіць народ — для іншых народаў таксама страта, бо народ — гэта не толькі мова, але і ўсё тое, што створана на гэтай мове на працягу вякоў».

У «Родных вытоках» не абмежаваліся аднымі толькі эмоцыямі, а расказалі, як няпроста пашыраць ужытак роднага слова. Журналістаў, нештатных аўтараў цікавіць, як дзейнічае Закон аб мовах. Імкнучыся адказаць на гэтае пытанне, карэспандэнты смела стукаюць у дзверы выканкамаў гарадскога і раённага Саветаў, турбуюць кіраўніцтва іншых дзяржаўных устаноў.

А прыклады чуйных адносін да роднага слова ў Докшыцах ёсць. Варта хаця б зазірнуць у сярэднюю школу № 2 райцэнтра. Тут стала традыцыйным правядзенне тыдня беларускай мовы і літаратуры. У свой час прайшлі мерапрыемствы, прысвечаныя шасцідзесяцігоддзю з дня нараджэння У. Караткевіча, стагоддзю — М. Багдановіча. Цяпер вось рыхтуюцца і настаўнікі і вучні да 110-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа.

Вялікую ўвагу аддае рэдакцыя і тэматычнай старонцы «Нам засталася спадчына». Тут прыводзяцца невядомыя факты з гісторыі Докшыцкага краю. Друкуюцца і забытыя або незнаёмыя творы пісьменнікаў-землякоў. Да прыкладу, сапраўдным адкрыццём для большасці чытачоў стала вершаваная падборка паэта-эмігранта Янкі Юхнаўца.

...а вы? Дзе ж вы мае?
Дзе ж вы цяпер?
Смутак развітання і з Айчынай
астаўся тут, у вашай хаце.

Я. Юхнавец — аўтар вершаваных зборнікаў «Шорах моўкнасці», «Новая элегія», «Калюмбы». Жыццёвы лёс звязаў яго з Германіяй, Амерыкай. У газеце змяшчаюцца і фальклорна-этнаграфічныя запісы.

Асіна балота красіла,
Дзяўчына мілага прасіла:
— Вядзі, міленькі, дзе браў,
Каб мой вяночак тут не звяў.
— Не бойся, мілая, не звяніць,
Ёсць у мяне сястрыца — схаваіць,
У беленькі платочак увяжыць.

Шкада, што гэтыя запісы друкуюцца без «біяграфічных даведак» — дзе зроблены запіс, ад каго і інш. Аўтарскі калектыў «раёнкі»—настаўнікі, краязнаўцы, навукоўцы, і не толькі з Докшыцкага раёна, але і з Гомеля, Віцебска, Менска. Сутыкаюцца на газетных старонках розныя меркаванні, прахodзяць сапраўдныя дыскусіі. І гэта ўсё на карысць чытачу, з клопатам пра яго духоўнае развіццё. Вось бы так у кожнай «раёнцы»...

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# ЗАБОЙСТВА ПА ТЭЛЕФОНЕ

***Андрыс КОЛБЕРГС***

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 1—3).*

Усё адбылося ў поўным маўчанні на мяшках з крупою, якія былі складзены каля дзвярэй. Ад нашай валтузні ўзняўся дробны мучны пыл, і яго тонкія ноздры чуйна ўздрыгвалі, а я была перапужаная насмерць, баялася чхнуць. Сяк-так мы гэтую справу закончылі, але яна стала маёю бядою, таму што за ёю быў і працяг, і на працягу двух месяцаў мне давялося паказваць страсць і экстаз. Я ўсяляк угаворвала сябе, але закахацца ў яго так і не змагла... Ён вазіў мяне на машыне на ванны ў лазню Крыгера. І заўсёды на сваёй машыне. Пры гэтым загадваў класціся на задняе сядзенне, каб не была прыкметная мая галава. Ён і здагадацца не мог, што такая язда прыніжае мяне. Вылазіла з машыны заўсёды злосная і растрэпаная. Мне, вядома, было напляваць на яго страхі перад жонкаю і знаёмымі. Разам мы нікуды не хадзілі — ці то праз яго страхі, ці то праз скупасць. Толькі ў лазню Крыгера. А мне рабілася млосна, як толькі я ўспамінала яго словы: «Вада цёплая. Ідзі першая, а я табе патру спінку». З сабою ён нічога не браў, акрамя шампанскага — тады гэтае пойла і трох рублёў не каштавала — ды два загорнутыя ў салфетку келіхі. Ён, ці бачыце, з інтэлігентнай сям'і і шампанскае прывык піць толькі з крыштальнага келіха, а пісьмы пісаць на мелаванай паперы... Самае жахлівае тое, што ў час акта ён мог спыніцца і гаварыць пра тое, што, калі здарыцца нагода, павысіць мяне ў пасадзе — прызначыць малодшым прадаўцом або таваразнаўцам. Адчапілася я ад яго толькі тады, калі выпадкова пазнаёмілася з Грышам. Як толькі яго ўбачыла, адразу зразумела, што літаральна праз гадзіну мы ўжо будзем у пасцелі. Як я кахала Грышу!.. Ён іграў на гітары ў аркестры. Як я яго кахала!.. »

— І тады я пакрысе пачала разумець,— сарамліва прызнаецца Аляксандра Янаўна,— што ўпусціла ў сваім жыцці штосьці вельмі важнае, сама сябе абакрала... І чым больш Эма расказвала свае ідыёцкія гісторыі, тым больш нікчэмнай я сабе здавалася. А гэтая брудная шлюндра ўсё больш узвышалася нада мною. Я ўпадала ў паніку, спрабавала пазбягаць размоў з ёю, але не вытрымлівала і сама звоніла ёй, каб зноў пачуць які-небудзь расказ пра раздзяванне, голае цела і пошлыя пяшчоты. Неяк яна сказала, што, расказваючы, глядзіць на здымкі. А я на свой лад уяўляла гэтыя сцэны мужчын і жанчын, пра якія я ўжо ўсё ведала на словах... Менавіта з-за гэтага мне здавалася, што жыццё пражыла дарма, што мяне абкружаюць якраз такія самыя ідыёты, як і сама, якія пад уціскам строгіх догмаў жылі, як скапцы, у імя будаўніцтва светлай будучыні і маральнай чысціні. А вышэйшая каста, адгарадзіўшыся сцяною, дазваляла сабе ўсё, што захочацца, таму што напраўду ні ў што не верыла... Бо тут жа ніхто з іх не жыве! Яны яшчэ да пенсіі ўмеюць матэрыяльна забяспечыць сябе! — звонка ўскрыквае Аляксандра Янаўна,— потым зноў манатонна працягвае: — Я ведаю дзесяткі выпадкаў, якія пацвярджаюць тое, што яны ні ў што не вераць, але ўсё гэта я пачала разумець пасля знаёмства з Эмай. Расказваючы свае гісторыі, яна прыніжала мяне! Я доўга цярпела... Вельмі доўга... Стала заўважаць, што людзі глядзяць на мяне неяк інакш — з жалем... Так мне здавалася... Любое нявіннае пытанне пякло: «Чаму ніхто не прыязджае цябе адведаць? Раскажы нам пра сваіх кавалераў. Цяпер ужо няма чаго баяцца: узрост...» Толькі не расказвай казкі, што ты ніколі не бачыла голага мужчыну! Ты заўсёды была разумнаю жанчынаю, але ж не дурніцаю ж!» Не магла я ім у адказ крыкнуць: «Не, была дурніца!» Аднойчы я даведалася, што ў адной з маіх падначаленых на працягу доўгіх гадоў быў патаемны раман з адным з сакратароў. І тады я зразумела, чаму гэтую абмежаваную жанчыну гэтак мэтаскіравана праштурхоўвалі наверх... Не хацела я выглядаць у вачах у іншых дурніцаю, белаю варонаю, ад якое яшчэ будуць шарахацца. Вось я і расказала адну з гісторый Эмы. Яна спадабалася слухачкам. Прыхапіліся нават задаваць пытанні, абмяркоўваць дэталі, але я не ведала, што адказваць, старалася хутчэй расказваць другую. Вось яна: «Рэнар біў мяне, але я яго кахала. Сінякі ад жорсткіх пабояў і раны я насіла пад адзеннем як ордэны. Ён біў мяне, а потым сам выў з гора, і слёзы каціліся ў яго па шчоках. Бо ён жа таксама кахаў мяне як вар'ят. Ён быў гатовы за мяне жыццё аддаць. Але рэўнасць у яго была жахлівая і не мела межаў. Удзень ён то песціў мяне, то біў, але ўночы я валадарыла над ім неабмежавана — ён быў мой пакорлівы раб... Я паводзіла сябе як самая цнатлівая манашка, але ён усё роўна раўнаваў, біў і выпытваў пра папярэдніх палюбоўнікаў: дзе жывуць, што робяць, калі мы апошні раз бачыліся? Я ўвесь час чакала страшную бяду, душа ў мяне дрыжала ад страху, але, відаць, чаму быць, таго не мінаваць,— ён выкінуў Манвіда з акна трэцяга паверха. Няшчасны трэснуўся патыліцаю і тут жа сканаў. Рэнар на судзе заявіў, што той сам на яго напаў, але гэта не памагло... Як я перажывала! Ён жа ў гэтую бяду трапіў з-за нашага кахання!.. У мяне ўсё роўна як душа змярцвела — не піла, не ела, але, на шчасце, праз некаторы час зусім выпадкова пазнаёмілася з Зіедонісам. Ён працаваў таксістам...» І, уявіце толькі, яны паверылі, гэтай гісторыяй я вярнула іх добрыя адносіны да мяне. Потым я расказвала ўжо іншыя Эміны гісторыі, і дзіва — я так жыва перажывала кожную Эміну прыгоду, быццам я была Эма... Вось тады я і зразумела — мне трэба мець фотаздымкі. Хоць зямля трэсні-лусні, але мець! За здымкі я абяцала ёй грошы, але яна адмовілася. Час ішоў, а жаданне маё не праходзіла. Я злавалася, зрабілася агрэсіўнаю... Каб супакоіцца, парашыла змяніць месца жыхарства — пераехаць у іншы пансіянат. Але раптам спужалася: а што, як там не змагу гадзінамі размаўляць з Эмаю па тэлефоне?.. І хоць усе гісторыі я ведала на памяць, яны сталі як быццам і маімі, але каб поўнасцю валодаць імі, трэба былі картачкі. І я пачала рыхтавацца да таго, каб завалодаць імі... Урэшце рэшт Эма сама вінаватая: яна ператварыла ў пекла маё спакойнае і размеранае жыццё. Я ўжо рашыла, што ўвогуле не жыла, я проста існавала ў нейкай дарагой клетцы... Так, з-за гэтых здымкаў я змагла б пайсці на забойства. І калі б я яго зрабіла, то яно і наступны смяротны прыгавор былі б сапраўднымі падзеямі ў маім жыцці, пра якія варта ўспамінаць. Я зразумела, што яна спрабавала знішчыць мяне. Гэта быў д'ябальскі і садысцкі план майго знішчэння! Так, яна спрабавала забіць мяне! Вы ж самі без сумненняў кваліфікавалі б яе дзеянні як забойства, калі б на ўсім працягу доўгага часу яна ўздзейнічала на мой арганізм забойчым ядам ці радыяцыяй. І зусім не важна, ці выпіла б я паднесены ёю яд разам ці маленькімі каўткамі! Важна тое, што мне яго далі, а я выпіла. Таксама не важна, на што падзейнічаў яд — на печань, на ныркі ці мазгі. А яна труціла мой мозг, спрабавала падвесці мяне пад самазабойства! І я зрабіла б гэта з пачуцця самаабароны!

— Забойства па тэлефоне?

— Во-во. Спроба забойства, калі больш дакладна.

— Раней вы сустракаліся?

— Не, ніколі. Але аднойчы, ужо праз некалькі месяцаў пасля нашага знаёмства па тэлефоне, я рашыла даведацца, а хто ж усё-такі гэтая Эма Кірко. Нумар тэлефона я ведала, таму ніякай цяжкасці не было. Заняпалая старая, вопусцень — так яе ахарактарызавалі мне ў кватэрным аддзеле.

— Думаю, тое, што вы ўбачылі, намнога пераважыла ўсе вашы ўяўленні, і да вас вярнулася валоданне сабою?

— На жаль, яна валодала тым, пра што мне ўжо і думаць нельга было. Яна жыла. Яе філасофія была ідыёцкай і прымітыўнай: жыццё — гэта адна вялікая прыгода, а людзі, птушкі і звяры з'яўляюцца на свет божы для таго, каб шукаць прыгод. Далей усё адбываецца, як у латарэі — адны выцягваюць белыя прыгоды, другія — чорныя, але ў асноўным усім трапляюцца шэрыя, іх нават прыгодамі назваць цяжка. І не трэба перажываць, калі выцягнеш чорную... усё-такі прыгода, і, значыць, падзея і дзень пражыты недарма.

— Што вы рабілі, каб абараніць сябе?

— Я парашыла адабраць у яе фотаздымкі! Я лічыла, што без іх яе ўспаміны і фантазіі паблякнуць.

— Гэта значыць, вы рашылі прысвоіць сабе права на адзінае багацце Эмы Кірко?

— Можна сказаць і так,— Аляксандра Янаўна вымае з шуфляды пісьмовага стала вялікі альбом у чырвоных скураных вокладках і падае мне.— Самі пераканайцеся. Праўда, каштоўнасць не вельмі вялікая. Альбом я купіла сёння, а здымкі ляжалі ў зашмальцаваным, падраным канверце, ён проста развальваўся...

І фатограф, і кампанія на здымках, відаць, вылучаліся фантастычнай тупасцю: стол, застаўлены бутэлькамі, людзі з узнятымі чаркамі; пляж, бутэлькі, кампанія чокаецца чаркамі; вечарынка, сталы застаўлены бутэлькамі, кампанія чокаецца чаркамі... Яшчэ некалькі аднолькавых здымкаў — танцуюць парачкі... Што гэта — тыповы адлюстровак іх інтарэсаў ці часу?

— І гэта ўсё? Ніякіх пікантнасцей?

— Паверце ўжо мне. Можа, былі і пікантнасці. ды, напэўна ж, былі пры такім ладзе жыцця, але, думаю, іх даўно ўкралі.

— Мабыць, не трэба пачынаць дыскусію пра тое, як кваліфікаваць вашы паводзіны — гэта кампетэнцыя суда... Ці доўга вы рыхтаваліся перад тым, як пайсці да Эмы Кірко?

— Мо з год. Я добра прадумала ўсе магчымыя сітуацыі.

— Вы ж разумелі, што аддаць здымкі па-добраму Эма не згодзіцца, яна ж нават адмовілася іх вам прадаць?

— Ага. Таму я і надумала адабраць іх у яе сілаю. Другое магчымасці ў мяне не было. Яна ведала мой голас, маё імя, нумар майго тэлефона, і я рашыла — буду дзейнічаць моўчкі, як нямая. У твар яна мяне ніколі не бачыла. Эма сказала, што ляжыць хворая — запаленне лёгкіх ці нешта такое. Я даўно чакала такога зручнага моманту... Значыць, яна аслабла, не зможа аказаць мне супраціўлення. Марудзіць было нельга, бо яна магла і памерці. Не будзе ж міліцыя расшукваць нейкія фоткі, якія забралі ў старое алкагалічкі. У міліцыі разважалі б, па-першае, каштоўнасць гэтых здымкаў мізэрная, па-другое, у старое можа быць хворае ўяўленне пра ўсё...

— Але ход падзей не заўсёды можна ўгадаць...

— І ўсё ж я старанна абдумала, дзе могуць ляжаць фотаздымкі. Калі яна хварэе, значыць, дзесьці побач, куды хвораму чалавеку лёгка дацягнуцца — пад падушкаю, пад матрацам, на тумбачцы або ў тумбачцы.

— А калі б у Эмы хапіла сілы ўчапіцца за ваша адзенне? А калі б яна пачала клікаць на дапамогу?

— У такім выпадку... Я ж абараняла б сваё жыццё... Узяла з сабою нож... Вось... — Аляксандра Янаўна працягнула мне прыгожы стылет. На тронку кнопачка. Я націснуў на яе — выскачыла бліскучае лязо.— Я прывезла яго з-за мяжы. Толькі не падумайце, што я яго купіла!.. Аднойчы я суправаджала хор, які выязджаў на гастролі за мяжу — у адну з паўднёвых краін. А тады было такое правіла: савецкія людзі маюць права пакінуць гасцініцу толькі групамі па пяць чалавек. Аднойчы раненька я пачула, як рыпнулі дзверы ў суседнім нумары. Я насцярожылася. Хуценька адзелася і падышла да акна... Я сама выбрала сабе пакой з такім разлікам, каб добра былі відаць уваходныя дзверы ў гасцініцу... Гляджу — выйшла адна з нашых харыстак і з асцярогаю агледзелася. Мяне яна, вядома, не заўважыла, я стаяла за штораю. Дзяўчына хуткім крокам пачала аддаляцца, тады я таксама выйшла і пайшла ўслед за ёю. Нічога іншага не аставалася мне рабіць. Справа ў тым, што чалавек з камітэта дзяржбяспекі — ён таксама суправаджаў наш хор — не падымаў трубку ў сваім нумары, калі я звоніла яму па тэлефоне,— мо не было на месцы... Мне пашанцавала: дзяўчыну я даволі хутка намацала позіркам у натоўпе, яна накіроўвалася ў бок базару. Дзяўчына несла даволі пухлую сумку. Я, вядома, магла б вярнуць харыстку назад, але мне здавалася, што з дзяржаўнага пункту гледжання не менш важна даведацца, куды і з якою мэтаю яна ідзе, таму я працягвала сачыць за ёю. Базар быў брудны і шумны, паўсюль сядзелі гандляры, параскладваўшы на цыноўках свае тавары. Дзяўчына загаварыла з адным, потым хутка выняла з сумкі вялікі блок цыгарэт — у іх звычайна дваццаць пачак — аддала яго гандляру, а той працягнуў ёй гэты нож. Калі дзяўчына ўбачыла побач мяне, заплакала і закрычала, як істэрычка. Я адабрала ў яе нож і загадала гандляру вярнуць цыгарэты. Але той па-руску ці не разумеў, ці рабіў выгляд, што не разумее. Мабыць, пакупку лічыў выгаднаю. Ён увесь час цвердзіў: «Ноў! Ноў!» і размахваў рукамі, даючы зразумець, каб мы вярталіся ў сваю гасцініцу... Я паводзіла сябе правільна. За такі ўчынак дзяўчыну выключылі б з камсамола, а потым з інстытута. Я ўжо не кажу пра тое, што за мяжу яе ніколі больш не выпусцілі б. Нож я на ўсякі выпадак пакінула ў сябе — як рэчавы доказ. Дзяўчына ўсё плакала і запэўнівала мяне, што хацела падлесціцца да свайго будучага свёкра, заядлага паляўнічага. Ён, казала, катэгарычна пярэчыць супраць таго, каб сын з ёю ажаніўся, і яе каханы завагаўся. Я, вядома, ёй паспачувала, але памагчы нічым не магла. Вярнуўшыся ў гасцініцу, я тут жа пайшла да прадстаўніка камітэта дзяржаўнай бяспекі, калі была ўжо блізка ад нумара, пачула галасы — мужчынскі і жаночы. Адчынілі не адразу, але жанчыну я там не заўважыла — мабыць, схавалася ў ванным пакоі. Па ўсім відаць было, што ў нумары была п'янка, а ў самога работніка дзяржбяспекі быў вельмі пакамечаны выгляд. Я і раней чула, што гэты чалавек любіць павесяліцца на грошы, якія яму выдаюць для асобых, выключных выпадкаў. Я падумала: цікава, як ён скарыстае атрыманую ад мяне інфармацыю? Я была ўпэўнена, што заслугі ён прыпіша сабе. Я нічога яму не стала казаць, але, як вярнуліся ў Рыгу, хацела ўсё аб'ектыўна зафіксаваць у справаздачы аб ходзе паездкі. За паездку трэба было даваць справаздачу пісьмова... Але, калі прыехала, то датумкала, што праўду пісаць нельга: я, напэўна ж, закранула б інтарэсы і іншых работнікаў дзяржбяспекі, а тыя ўжо прыдумалі б, як мне адпомсціць. Так што рызыкавала аднолькава, незалежна ад таго, напісала б ці не тую дакладную.

Добры стылет — лязо выскоквае лёгка і бязгучна.

— Мо ўсё-такі вернемся да ўчарашняга? — прапаноўваю я.— Шафёру таксі вы сказалі ехаць перш за ўсё на Вазнясенскую вуліцу, там вы выйшлі з машыны і сказалі пачакаць.

— Я падумала, калі ў Эміным доме мне хто-небудзь сустрэнецца і папытае пра што, скажу, што з домакіраўніцтва, маўляў, прыйшла праверыць, як працуе водаправод... На лесвіцы ў паўпадвале было цёмна... Я ўключыла ліхтарык... Калі пастукала ў дзверы Эмінай кватэры, яны адчыніліся самі. «Ёсць тут хто-небудзь?» — змененым голасам спытала я. Адказу не было, толькі чуўся дзіўны хрып. Я скіравала святло ліхтарыка на гук і ўбачыла на матрацы ў крыві Эму, якая канала. У горле ў яе тырчалі ножанкі, і ўратаваць яе, вядома, было нельга. Наўкола быў бруд і мярзоцце... Я зразумела, што трэба як мага хутчэй уцякаць адсюль, што я магу апынуцца ў вялікай небяспецы... Але ўсё-такі я заглянула пад падушку і ў тумбачку. Фотакарткі ляжалі ў тумбачцы... Я іх узяла. Вядома ж, я не магла не ўзяць...

Як толькі я вярнуўся ў свой кабінет, пазваніў следчы.

— Што парабляеш? — весела пытаецца ён.

— Раздумваю.

— У такі позні час? І пра што думаеш?

— Мабыць, пра тое, што і ты.

— Я табе ўжо цэлую гадзіну тарабаню. Хацеў сказаць, што заўтра твая дапамога мне не спатрэбіцца. Забойцу знайшоў участковы інспектар. Усё адбылося якраз так, як ты казаў. Злачынец прыйшоў да Эмы па гарэлку, перад тым ён пабываў яшчэ ў двух-трох месцах, дзе яму адмовілі — ці напраўду гарэлкі не было, ці не захацелі прадаць. Да Эмы ён ужо заваліўся сам не свой. Як назло, на тумбачцы валяліся ножанкі. Ён сцвярджае, што хацеў толькі напужаць старую, але рукі не слухаліся, і ён усадзіў ёй ножанкі ў горла. Думаю, не хлусіць.

Кроў стыла ў жылах ад думкі, як усё абясцэнілася ў нашым жыцці.

Пераклаў П. МІСЬКО.

